7 ВЕРАСНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№101 (632) КОШТ СВАБОДНЫ

стр.4



## «КИНО ПРО ВОЛОСАТЫХ»

ЭКАНОМІКА

# «Чаўночны» бунт

## У рэспубліцы спынілі работу прыкладна 73% рынкаў

**Рыгор БУЯН**

Бунт прыватных прадпрымальнікаў, якіх у рэспубліцы налічваецца да 150 тысяч чалавек, набыў агульнарэспубліканскі маштаб. Да прыватнікаў з Гродна, Віцебска, Наваполацка, Полацка, іншых гарадоў далучылася фактычна ўся рэспубліка: ужо бастуюць каля 73% рынкаў па ўсёй Беларусі. Мінскія прадпрымальнікі таксама не выходзяць на працу, за выключэннем хіба што 10% гандляроў «Дынама».

Усеагульнае абурэнне гандляроў выклікаў прэзідэнцкі дэкрэт №14, падпісаны яшчэ 4 жніўня 1997 года. Менавіта гэты дакумент запатрабаваў ад прадпрымальнікаў праводзіць абавязковую сертыфікацыю ўсіх без выключэння тавараў. Пасля забастовак у траўні гэтага года ўлады пайшлі на перамовы з прыватнымі гандлярамі, у выніку якіх дзеянне дэкрэта было прыпыненае да 1 верасня. З 1 верасня дэкрэт двухгадовай даўнасці пачаў дзейнічаць на поўную сілу — з гэтага дня любы супрацоўнік праваахоўных органаў можа без суда і следства канфіскоўваць у гандляроў тавар, калі адсутнічаюць сертыфікат якасці, дакументы на пакупку валюты ці іншыя нейкія паперы. Прыватныя прадпрымальнікі сталі безабаронными, менавіта таму ўжо 1 верасня частка прыватнікаў не выйшла на работу.

Прадпрымальніцкі бунт разрастаецца. Як адзначыў старшыня стачкама, утворанага прадпрымальнікамі, Валерый Леванеўскі, гандляры будуць пратэставаць да поўнай адмены дэкрэта. 3 верасня прадстаўнікі прадпрымальніцкіх прафсаюзаў перадалі свае патрабаванні ў адміністрацыю прэзідэнта і міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. Адказ трэба чакаць праз месяц — таму мінімум на месяц гандляры спынілі сваю працу. 6 верасня прадстаўнікі стачкама ў многіх гарадах і мястэчках падалі заяўкі ў органы мясцовай улады на правядзенне мітынгаў 20—26 верасня. Валерый Леванеўскі заявіў пра падтрымку з боку прадпрымальнікаў і акцыяў пратэсту афіцыйных прафсаюзаў, якія запланаваныя на 30 верасня ў Мінску і абласных гарадах.

Выступленне прадпрымальнікаў адзіным фронтам супраць дэкрэта №14 фактычна заклала асновы для стварэння Свабодных прафсаюзаў Беларускіх грамадзян-прадпрымальнікаў і асоб, якія працуюць на рынках РБ. Стачкам ужо абвясціў пра пачатак яго стварэння. Па словах В.Леванеўскага, больш за 20 прафсаюзаў з усёй рэспублікі выказалі жаданне аб'яднацца ў адзіную структуру, і прадпрымальнікі больш чым з 30 гарадоў і мястэчак паспелі для стварэння мясцовых прафсаюзаў. Кіраўніцтва стачкама плануе аб'яднаць беларускіх прадпрымальнікаў да сярэдзіны верасня. Усе гэта робіцца з адной мэтай — сумеснымі намаганнямі абараняць свае інтарэсы. ►

*Заканчэнне на стар.3*

# Пад грыфам «Звышсакрэтна»

## Дыпламатам загадана любой цаной «закантачыць» з Еўропай

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**МЗС Беларусі распрацаваў план уступлення ў Савет Еўропы пасля правядзення ў Беларусі парламенцкіх выбараў. Асаблівая надзея ў выкананні гэтай, прама скажам, фантастычнай мэты ўскладаецца на рабочую групу пад кіраўніцтвам Міхаіла Сазонава, якой А.Лукашэнка даручыў праводзіць кансультацыі з палітычнымі партыямі. Копія гэтага закрытага дакумента трапіла ў НАВІНЫ.**

Нагадаем, шмат хто ў Беларусі лічыць, што сапраўдная мэта групы Сазонава — не шукаць выйсця з канстытуцыйнага крызісу, а імітаваць працэс перамоваў, каб уцягнуць еўрапейскія структуры ў кантакты з афіцыйнымі прадстаўнікамі беларускай дзяржавы і тым самым падмацаваць імідж Лукашэнкі і ягоны статус (а з пункту гледжання міжнароднага права, пасля 20 ліпеня ён не прэзідэнт, а чалавек, які валодае дзяржаўнай уладай). Існуе меркаванне, што гэтай імітацыяй Лукашэнка таксама паспрабуе адцягнуць час, калі ў ягоную спрэчку з апазіцыяй умяшаецца галодны народ. Вось і ладзіцца «дыялог дзеля дыялогу». На карысць таго, што гэта менавіта «гаварыльня» і да яе інакш не ставіцца і ва ўладных калідорах, сведчаць многія з пунктаў плана, зацверджанага міністрам замежных справаў Уралам Латыпавым.



Фота BF

Міністр замежных справаў **Урал Латыпаў** пакуль што ў добрым настроі

Калісьці так складаліся камсамольскія дакументы — шмат палітычнай траскатні і як мага больш узгадванняў начальніка. МЗСаўскі план «вяртання ў Еўропу» не пазбаўлены таго ж «дасягнення». Аўтары пералічваюць будучыя паездкі свайго шэфа за межу — у Нью-Йорк, Страсбург, Прагу, не пакідаюць без увагі і меншыя па маштабах падзеі — канферэнцыі з удзелам беларускіх прадстаўнікоў у Берліне. «Выкарыстоўваць візіт», «правесці», «інфармаваць» — такія інструкцыі раздаюцца тым, хто паедзе за мяжу, і тым, хто ўжо там.

Аб'ектам інфармацыйнай раскруткі павінна стаць рабочая група пад кіраўніцтвам Міхаіла Сазонава, а фонам для гэтай кампаніі — абстаноўка «палітычнай стабільнасці ў Беларусі, якая аказвае пазітыўны ўплыў на стабільнасць і прадказальнасць эканамічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь» (п.5 плана). Аказваецца, пра наяўнасць гэтай «стабільнасці» трэба інфармаваць як мага больш людзей. Прычым не толькі замежнікаў, але і беларусаў (а то не ведаюць бедныя, як ім стабільна жывецца!). Навошта патрэбная гэтая палітінфармацыя сваёй і сусветнай грамадскасці? А каб «супрацьстаяць магчымаму тэндэнцыйнаму асвятленню падзеяў у Беларусі» — чытаем у 6-ым пункце латыпаўскага плана і далей знаходзім, каго ў першую чаргу будуць ратаваць ад «магчымага тэндэнцыйнага асвятлення». Гэта — кіраўнік дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю Ж.Н.Віерсма, дакладчык Парламенцкай асамблеі па Беларусі В.Берэндт і, канешне ж, кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ Х.-Г.Вік і кіраўнік рабочай групы АП АБСЕ А.Северын. Паколькі ў працэс назірання за Беларуссю ўцягнуты куды больш шырокія еўрапейскія колы, план рэкамендуе «праводзіць рэгулярныя сустрэчы» таксама з паслом Францыі Б.Фасье, бо ён прадстаўляе ў Беларусі яшчэ і ўвесь Еўрапейскі саюз, а таксама з амбасадарам Германіі Х.Вінкельманам. ►

УТВЕРЖДАЮ
Заместитель Премьер-министра - Министр иностранных дел Республики Беларусь
У.Р.Латыпов
12 августа 1999 года

План
первоочередных внешнеполитических действий в связи с началом деятельности Рабочей группы по проведению консультаций с политическими партиями и другими общественными объединениями

| Мероприятие | Сроки | Исполнители |
|---|---|---|
| ... текст интервью Главы Администрации Президента («СБ», 11.08.99) во все ... Беларусь для широкого ... кругов в странах пребывания. | 12 августа 1999 | УН |
| ... начале деятельности Рабочей группы для ... с политическими партиями и другими ... организациями (ОБСЕ, Совет ... МИС СНГ), а также КНГ ОБСЕ ... представительства в Минске. | 12 августа 1999 | |

*Заканчэнне на стар.3*

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Былы кіраўнік парламента Азербайджана Расул Гулієў затрыманы два дні назад іміграцыйнай службай ЗША.** Гулієў жыве за мяжой з 1996 года. Каля двух гадоў назад супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа па абвінавачванні ў крадзяжы ў асабліва вялікіх памерах. Экс-спікер заявіў, што яго пераследуюць з-за таго, што ён крытыкуе прэзідэнта Азербайджана Гейдара Аліева і яго ачаленне.

■ **У нядзелю на Манежнай плошчы Масквы адбылася масавая бойка з прымяненнем халоднай зброі.** У сутычцы ўдзельнічала каля 50-ці чалавек ва ўзросце ад 17 да 22 гадоў, «якія знаходзіліся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення». 6 чалавек атрымалі нажавыя раненні, двое з іх цяжка параненыя.

■ **Працягваюцца масавыя беспарадкі ва Усходнім Цімары.** Ужо загінула каля ста чалавек. Паранены лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру, епіскап-каталік Карлуш Белу. Эвакуяваныя амаль усе журналісты і супрацоўнікі ААН. Беспарадкі ва Усходнім Цімары — былой партугальскай калоніі, анэксаванай Інданезіяй у 70-ым годзе, — пачаліся пасля таго, як на рэферэндуме больш за 78% выбаршчыкаў выказаліся за незалежнасць.

■ **Наш былы зямляк, а зараз гулец зборнай Расіі па гандболе Аляксандр Тучкін атрымаў сур'ёзныя траўмы ў выніку дарожна-транспартнага здарэння.** Тучкін у кампаніі расіяніна Ігара Лаўрова накіраваўся ў аўтамабільную паездку, якая закончылася трагічна, — машына не ўпісалася ў паварот і ўрэзалася ў дрэва. Абодвух спартсменаў чакае шматмесячнае лячэнне.



НАДВОР'Е




**Сёння ўдзень** па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер няўстойлівы, 3—8 м/сек. У наступныя двое сутак, **8—9 верасня**, чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі па поўдні краіны кароткачасовыя дажджы, тэмпература паветра ўначы 6—11 градусаў, удзень — 20—25.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**485 000**

# Пад грыфам «Звышсакрэтна»

*Заканчэнне. Пач. на стар. 1*

Дарэчы, немцам у «плане Латыпава» ўвогуле надаецца вялікая ўвага. Каб гэта не была пустая заява, варта цалкам працытаваць пункт 13. «Выкарыстоўваючы сяброўскія адносіны Х.-Г.Віка і прэзідэнта «Германа-беларускага дома Карлсруэ-Мінск» Р.-Д.Руперта з прадстаўніком Германіі ў Савеце Еўропы Н.Домесам, прадстаўніку РБ у Страсбургу ўсталяваць з апошнім цесны кантакт для садзейнічання фарміраванню ў арганізацыі пазітыўнага ўспрымання працэсаў і вынікаў унутрыбеларускага дыялогу». Пакінем на сумленні аўтараў гэтага дакумента іх яўна шпіёнскую фразеалогію («усталяваць цесны кантакт»), а таксама не заўважым парадаў выкарыстоўваць чыюсьці дружбу ў сваіх інтарэсах. Хай кантактуюць. Зазірнем лепш у сутнасць гэтага пункта.

А яна ў тым, што, яшчэ не ведаючы, як будзе складвацца «ўнутрыбеларускі» дыялог, тым больш не маючы прадстаўлення пра яго вынікі, аўтары плана ўжо загадваюць сваім падначаленым у Страсбургу «арганізаваць» прыём гэтых вынікаў на «ура». Хіба гэта не дэманстрацыя, што на самой справе галоўнае — для афіцыйнага боку. Зразумела, калі нашыя ўлады сапраўды збіраліся б выканаць умовы Еўропы — дэмакратызаваць палітычнае жыццё ў краіне і правесці сапраўды вольныя выбары, — інструкцыі спадара Латыпава накont «арганізаваць пазітыўнае ўспрыняцце» ў прынцыпе не спатрэбіліся б.

І напрыканцы яшчэ адна красамоўная цытата: пункт 18 таго ж плана.

«Падрыхтаваць і перадаць рабочай групе пералік праблемных пытанняў у эканамічных адносінах РБ з краінамі-сябрамі ЕС, пазітыўнае рашэнне якіх тармозіцца з-за негатыўных знешніх адзнак палітычнай сітуацыі ў Беларусі, з мэтай давядзення гэтай інфармацыі да ведама палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў. Паралельна з рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання ўздел апошніх у рашэнні гэтых праблемаў, а не заклікі да эканамічнай ізаляцыі Беларусі, будуць садзейнічаць эканамічнай стабілізацыі ў краіне».

Цытата — проста клас! З яе бачна, па-першае, што беларускім уладам патрэбны не Савет Еўропы, а яе грошы, без якіх нашым начальнікам ужо не пратрымацца. А па-другое, мімаходзь Латыпаў прызнае, што стабілізацыі ў нас насамрэч ніякай няма, калі дзеля яе даводзіцца слацца перад Еўропай і апазіцыяй. ■

КАНФЕСІІ

## Царкоўны бізнес зноў у прывілеяваным становішчы

**Алесь КНЯЗЮК, Марат ГАРАВЫ**

У рад унёс змяненні ў Парадак кампенсацыі Дэпартаменту знешніх сувязяў Беларускага экзархата Праваслаўнай царквы сумаў падаткаў, мытных пошлінаў, іншых збораў і плацяжоў у бюджэт і ў дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды. Зацверджаны гэты парадак быў у ліпені 1997 года. Асноўныя змяненні закранулі размеркаванне сумы кампенсацыі. Зараз Дэпартамент знешніх сувязяў Беларускага экзархата Праваслаўнай царквы на будаўніцтва мемарыяльнага комплексу «Храм-помнік у гонар усіх Святых і бязвінна забітых у Айчыне нашай», Дома міласэрнасці і духоўна-адукацыйнага цэнтра будзе накіроўвацца не менш за 35 працэнтаў гэтых сумаў. Астатняя іх частка размяркоўваецца наступным чынам: «на ўтрыманне Дэпартамента — не больш за 5 працэнтаў, суб'ектам гаспадарання, якія рэалізуюць набытыя ў Дэпартамента тавары, — не больш за 5 працэнтаў, у пазабюджэтны фонд — не больш за 35 працэнтаў, у рэспубліканскі бюджэт — не менш за 20 працэнтаў дадзеных сумаў».

Дэпартамент знешніх сувязяў Беларускага экзархата павінен да 10 числа кожнага месяца прадстаўляць у Камітэт дзяржаўнага кантролю выпіску з асобных банкаўскіх рахункаў, на якія ідуць сумы кампенсацыі, і справаздачу аб выкарыстанні гэтых сродкаў.

Варта адзначыць, што кампенсацыя сумаў падаткаў, мытных пошлінаў, іншых збораў і плацяжоў у бюджэт і ў дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды не з'яўляецца звычайнай практыкай у Беларусі. Іншыя рэлігійныя канфесіі, што дзейнічаюць у краіне, не могуць пахваліцца такімі льготнымі ўмовамі гаспадарання. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Феміда ў пастцы

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**У чацвер Фрунзенскі райсуд Мінска збіраецца вынесці прысуд былому старшыні праўлення Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Хілько. Пракурор палічыў неабходным даць банкіру пяць гадоў пазбаўлення волі.**

У той жа час пракурор папрасіў улічыць прафесійныя заслугі, станоўчыя характарыстыкі, а таксама стан здароўя падсуднага. Сам Уладзімір Хілько сваёй віны не прызнаў. Падчас апошняга пасяджэння з-за моцнага прыступу радыкуліту яго збіраліся пакласці на лячэнне ў неўралогію. У.Хілько ледзьве падняўся ў залу суда і папрасіў усё ж працягваць працэс. Да гэтага часу У.Хілько знаходзіцца ў турэмнай бальніцы.

Абаронцы У.Хілько лічаць яго абсалютна невінаватым і спадзяюцца на апраўдальны прыгавор. Яны лічаць, што ў дзеяннях былога банкіра «няма складу злачынства, а таксама няма ўрону, быццам бы нанесенага краіне».

Пры гэтым патрэбна ўлічыць вялікую неразбярыху ў банкаўскім заканадаўстве нашай краіны, якая панавала падчас дзейнасці У.Хілько на сваёй пасадзе старшыні.

Па словах адваката Святланы Маргулец, у 13-томнай справе толькі тры тамы ахопліваюць дзеянні У.Хілько, а астатнія складаюцца з ксеракопіяў дакументаў, якія датычаць асобаў расійскага і латвійскага банкаў.

С.Маргулец лічыць, што абвінавачванне абсалютна надуманае, а ў дзеяннях былога старшыні Ашчаднага банка адсутнічае склад злачынства, і пра гэта сведчаць матэрыялы папярэдняга і судовага следства. Расійскі банк «Янтарь» і латвійскі «Латвін Трэйд банк», якія былі аб'яўленыя банкрутамі, не паведамлялі, што не вернуць узятыя крэдыты. Агульнапрынята, што ўсе банкі перадлічваюць сродкі ў спецыяльны рэзервны фонд на выпадак банкруцтва. І да гэтага часу Нацыянальныя банкі Расіі і Латвіі не далі афіцыйнай адмовы ў вяртанні гэтых крэдытаў. Толькі пасля таго як Нацбанкі паведамяць, што не могуць вярнуць крэдыты, можна будзе гаварыць пра нейкі ўрон. У выпадку, калі, напрыклад, праз год Нацбанкі вернуць узятыя крэдыты, як тады быць з Уладзімірам Хілько? ■



Фота REX/ProMedia

● Лекарка правярае стан **Уладзіміра Хілько** за кратамі на лаве падсудных

ДЫЯГНАЗ

## Интегранцы



**Александр ПОТУПА**

Что у нас по-настоящему здорово — наличествующие во всякий момент две новости. Одна непременно плохая, другая хорошая. Или наоборот — хорошая и плохая. А ввиду окончательно победившего *единосвободомыслия* каждый волен понимать, как пожелает — в любом порядке, установленном действующим президентом и бездействующим законом. Например, *жить будем тяжело, но недолго.* Тут не так-то просто сказать, какая из новостей плохая, — обе они по-своему хороши.

Или величайшая пара прочно склеенных новостей. Хорошая: *мы живем в Союзе с братской Россией.* Плохая: *определенные круги препятствуют нашему завершающему слиянию в единое сверхмощное государство.* Можно и наоборот, ежели нравится. Но каковы упомянутые *определенные круги*! И что же тогда думать об *определенных квадратах и шестиугольниках*, которые, как известно, спят и видят, поскольку есть отпетые агенты НАТО, МОССАДА и Уолл-Стрита одновременно?

Кое-кому очень хочется равноправнейшего Союза между странами, население коих разнится в 14,7 раза, ВВП — в 20 раз, а территория — в 82 раза. И кое-кто удивляется, что партнер к такому равноправию не готов. Кое-кто, будучи истинным диалектиком ленинского типа, считает, что должна быть как бы одна сверхдержава, которая на самом деле будет состоять из двух вполне суверенных государств. Чтоб они нам — ресурсы по внутренним ценам плюс ежегодное списание всех долгов, ибо какие там долги между братьями. А мы им — защиту западных границ с применением суперсовременного видеооружия в особо опасной форме *телеистерических* антиНАТОвских выпадов, благо на оные границы никто не покушается. А они нам — надежное прикрытие восточных рубежей, что как раз существенно.

Потому как, ежели группа российских пацанов с игрушечными автоматами под руководством нескольких «отмороженных» инструкторов запросто берет белорусскую деревню, то что же будет при прорыве сюда пары басаевских взводов? Дагестанская война уже обошлась братской России в годовой белорусский бюджет. Не прошло и трех недель, как выяснилось, что все великодержавные внутренние войска не могут справиться с несколькими сотнями моджахедов. Теперь в бой пошла регулярная российская армия, а сражения приближаются к Каспию. Может пора поворачиваться лицом к ваххабитам и пятикратно творить намаз? Стоит подумать — за такой нашенский государственный флаг они могут запросто в имамы произвести, а заодно прикупить десяток местных МАЗов и тракторов «Беларусь».

Но, несмотря ни на что *брачный танец пустого живота* продолжается. Получается не шибко эстетично, но доходчиво. Однако великая братская страна, беременная ускоренным развалом, занята чем-то своим иконно загадочным и на призыв нежный и страстный не реагирует. Упивается очередными двумя новостями. Солдатам, идущим на смерть в горах Дагестана, обещанные зарплаты по 1.000 баксов так и не выплачены. Но в суперремонт Большого Кремлевского дворца вбухано треть миллиарда долларов. Отгадайте с трех попыток, какая новость хорошая, а какая не очень. И да здравствуют *танцы-шманцы-интегранцы!* ■

ЭКАНОМІКА

# «Чаўночны» бунт

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Аднак і ў працэсе аб'яднання прадпрымальнікаў не абышлося без скандалаў. Прафсаюз прадпрымальнікаў Мінска і Мінскай вобласці «Садружнасць» фактычна сабатуе рашэнне аб правядзенні агульнарэспубліканскай забастоўкі. Прафсаюзныя функцыянеры робяць усё, каб не дапусціць забастоўкі ў сталіцы. Тым самым «Садружнасць» парушыла дамоўленасць прадпрымальніцкіх прафсаюзаў распачаць усеагульную забастоўку пры з'яўленні першых фактаў канфіскацыі тавараў у гандляроў. 3 верасня на беларуска-расійскай мяжы паблізу Оршы ўлады спынілі мікрааўтобус з дзевяццю прадпрымальнікамі і канфіскавалі ў іх расійскія рублі — у іх не было дакументаў на набыццё расійскай валюты. Таму ў той жа дзень, 3 верасня, прадстаўнікі «Садружнасці» былі выведзеныя са складу стачкама.

«Штрэйкбрэхерам у нас не месца», — заявіў НАВІНАМ Валерый Леванеўскі.

Са свайго боку, намеснік старшыні прафсаюза «Садружнасць» Мая Сінайская сцвярджае: перш чым баставаць, трэба адпаведным чынам падрыхтавацца. Яна сказала НАВІНАМ наступнае: «Ёсць факты, калі праваахоўцы інцыдэнты паміж тымі, хто працуе, і тымі, хто працаваць не хоча». Па словах М.Сінайскай, у прафсаюзе няма інфармацыі пра тое, што ў кагосьці з прадпрымальнікаў па рэспубліцы ўжо канфіскавалі тавар, а значыць, трэба далучацца да перамоваў, «якія вядуцца на досыць высокім узроўні, каб дабіцца альбо адмены дэкрэта № 14, альбо прыпынення яго дзейнасці».

Аднак дзеянне дэкрэта ўжо прыпынілася. Выходзіць, што «Садружнасць» свядома наступае на адны і тыя граблі? Дарэчы, акрамя інцыдэнту ў Оршы, 3 верасня АБЭП правёў рэйд і на рынку «Ждановічы» пад Мінскам. Як сцвярджае М.Сінайская, там былі канфіскаваныя каля 120 кг мяса ў людзей, якія не мелі аніякіх дакументаў на прадукцыю. ■

# «Кино про волосатых» на площади Свободы

Илья КУЗНЕЦОВ

**Поздно вечером 20 августа милиция учинила «охоту» в самом центре Минска — в скверике, что на площади Свободы. Те, кому, мягко говоря, не повезло, оказались в участке. Совершенно невинных людей избивали и унижали. «Охота» велась по принципу: брать только «волосатиков»! Я оказался одним из них...**

## Новый друг

В этот день, около половины двенадцатого вечера, мы со знакомым шли по улице Ленина от ресторана «МакДональдс» по направлению к площади Свободы. Навстречу вышагивал парень и невысокая девушка. Парень, на вид лет 25-30, был в джинсах, кожаной жилетке и с длинными черными волосами. Пара подошла к нам, и парень, дружелюбно протянув мне руку, сказал: «Привет, как дела?». Я его не узнал, однако это его ни чуть не смутило, и он предложил пойти в сквер, где снимают «кино про волосатых». Мы с другом, конечно, не мечтали сняться в кино, но, будучи оба «волосатыми» (у нас обоих довольно длинные волосы), решили посмотреть, что происходит в сквере на площади Свободы. Сразу хочу сказать, что мы не завсегдатаи подобных мест. Работа не позволяет нам проводить много времени на «тусовках», поэтому все нам было в новинку.

## Облава

В сквере было полно народу. Мы сели на первую попавшуюся скамейку, открыли по бутылке пива, я закурил сигарету. Сидим, болтаем, смотрим на собравшуюся публику. Минут через 10 возвращается наш новый знакомый и говорит: «А что это вы здесь сидите, пойдемте к нам!». Заинтересовавшись, мы решили подойти поближе к эпицентру этой странной «тусовки». С задней стороны площади Свободы, около дома номер 2 по улице Энгельса стояли несколько мотоциклов. Через минут десять мой друг говорит: «По-моему, пора отсюда уходить». В недоумении я спрашиваю его: «Почему?». Он говорит: «Посмотри назад».

К мотоциклам подъехал большой «Икарус», и из него вышли с десяток милиционеров, сотрудников ОМОНа и люди в штатском. Через минуту милиция и люди в штатском стали собирать всех, кто был в сквере, и отводить их к автобусу. К нам тоже подошел человек в форме и скомандовал: «Все к автобусу!» Мы недоумевая пошли. По дороге человек в форме скомандовал: «Руки за голову!». Это уже становилось интересным...

Возле автобуса последовала команда: «Руки на автобус, расставить ноги». Мы повиновались. Ревностный страж порядка посчитал, что этого будет недостаточно, и ударом ботинка по внутренней стороне моей стопы придал моим ногам нужное положение. То же самое было и с остальными. Затем начался обыск. Во время обыска людей постоянно унижали. Особенно муссировалась тема гомосексуалистов: «А ты, что с длинными волосами и серьгой в ухе, педик что ли?» – говорили милиционеры и ребята в штатском задержанным. Всего по парку насобирали уже человек 30.

У моего друга в кармане был паспорт, у меня — водительское удостоверение, но нашими документами никто не заинтересовался. Пока мы стояли, нам удалось шепотом перемолвиться словечком. Решили, что не будем унижаться и просить «добрых дяденек», чтобы нас отпустили, а пройдем всю эту процедуру до конца. Не в каждой же стране в конце XX века граждане могут поучаствовать в таком «шоу».

После обыска людей стали загонять в автобус со словами: «Шевелись, шевелись!». Через одного — пинками под зад.



## Автобус

В автобусе с мягкими сиденьями люди начали переговариваться, пытаясь выяснить друг у друга, за что нас забрали. Это не понравилось милиции, и поступила команда: «Молчать, головы на колени!». Неповиновавшихся быстро пригнули взмахами дубинок. Тех, кто сидел на передних сиденьях, в том числе и нас с другом, пересадили назад, потому что спереди — привилегированные места для стражей порядка. Вместе с милицией и ребятами в штатском получился полный автобус. Сидя с пригнутыми к коленям головами, мы вдруг увидели, что вдоль автобуса прогуливается и мирно разговаривает наш «волосатый друг». Только теперь мы поняли, кто он такой и что за «кино про волосатых» снимают в сквере на площади Свободы! Один из задержанных пытался объяснить милиции: «Я тут в кино снимался, вон режиссер ходит, позовите его, он скажет», — показывая пальцем на нашего нового «друга».

После этого все три категории стражей порядка стали ходить по автобусу и «отфильтровывать» приглянувшихся им людей.

— Кто тут из Москвы? — прежде всего спросили они. Почему не из Праги или Вильнюса, подумал я. Вышли два человека.

— Кто тут еще профессора и академики?

— Я – музыкант, — послышался голос.

На чем играешь?

— На скрипке.

— Хорошо, — говорят, — нам музыканты нужны.

Нескольких человек «отпросили» стоявшие у автобуса девушки.

После «фильтрации» нас повезли. Напротив кинотеатра «Победа» к нам в автобус подсадили еще человек 10 с дискотеки. Всех вместе доставили в отделение охраны порядка Центрального РОВД, что на улице Интернациональной, 14.

## Отделение

Высадили из автобуса. «Всем к стене! Руки на стену, ноги шире!» Человек 20 сразу отправили в РОВД: «Бегом в клетку!» Остальных, в том числе и нас, передвинули вдоль по стенке, не отрывая рук. Стоим под углом градусов 45 к земле, упершись руками в стенку и широко раздвинув ноги. Должен сказать, довольно неудобное положение. Сзади ходят стражи порядка всех мастей и издеваются: «Тут же вообще людей нет, один сброд», «Педики тут есть? Поднять руки!», «Голову не поднимать».

Дальше начинается самое интересное. Оставшихся у стенки людей по одному начинают загонять в «клетку». Первому говорят:

— Так, отжался 20 раз и бегом в клетку. Понял?

— Я не умею отжиматься.

Подходит еще один в штатском:

— Подожди-ка. Не умеешь отжиматься? На физкультуре не научили? Тогда присел 30 раз и 2 секунды — ты в клетке.

Парень приседает, побежал. За две секунды не успел. Стражи ему:

— Назад! Присел еще 10 раз и 2 секунды — ты в клетке.

На этот раз добежал. Таким образом приседали или отжимались несколько человек. Посоветовавшись с другом, мы решили, что ни приседать, ни отжиматься мы не будем, что поможет нам благополучно снять побои. Стоим, ждем своей очереди. Сзади слышен голос:

— Кто служил в армии, поднять руку.

Несколько человек, в том числе и мы, поднимают руки. Команда: «В клетку!». Уже позже я понял, что в армии существуют свои законы, и под конец службы солдата не могут заставить приседать, отжиматься, мыть туалеты или совершать другие действия, которые обязаны совершать «молодые бойцы». Видимо, по таким же «законам зоны» живут и в милиции, и ребята просто постыдились заставлять «стариков» отжиматься. А жаль.

## Клетка

Пошли в РОВД искать клетку. По отделению ходят толпы народа: родители, милиция, ОМОН, люди в штатском с рациями. Все двери открыты и при желании можно сбежать. Я подхожу к одному из кабинетов и спрашиваю: «Где здесь клетка?» Мне говорят: «Вон там». Клетка — это маленькое помещение, битком набитое людьми, стоящими вплотную друг к другу. Я думаю, что было бы неплохо записать несколько фамилий людей, но не делаю этого, опасаясь, что среди них могут опять оказаться провокаторы. Да и меня могли точно так же принять за провокатора.

В это время мой друг спрашивает у одного из стражей: «На каком основании вы меня задержали? У меня есть документы». В ответ поступает объяснение, что сейчас проводится общегородская операция (?!), документам верить нельзя (?!?!), а вдруг, мол, документы у тебя в порядке, а ты – бандит и находишься в розыске.

## В гостях у Золушки. Настоящее кино

В комнате, куда нас отправили после «отсидки» в клетке, составляются протоколы. Делается это следующим образом. Выясняется фамилия, имя, отчество и год рождения. Далее следует телефонный звонок: «Золушка, посмотри, пожалуйста, Петров Петр Петрович, 1917 года рождения». После нескольких минут ожидания человека либо отпускают, либо составляют протокол. Вероятно, в зависимости от точки зрения Золушки.

При мне капитан журил одного из задержанных: «Ну что ж ты пиво пьешь, хулиганишь?». В ответ подросток извинялся и рассказывал, что шел, мол, с дискотеки, купил бутылочку пивка... «Ну иди, подпиши, что пил пивко... И вот тут еще». Парень не читая подписывал все. После этого капитан обращался к стоящему в дверях стражу: «Отведи-ка этого, откатай ему пальчики, чтоб не пил пивко». Одному только капитану известно, что подписал этот парень, но его повели в соседнюю комнату, сняли отпечатки пальцев и... сняли на видеокамеру. Вот оно где кино-то про волосатых, понял я.

Пока я ждал своей очереди, в комнату вбежали две заплаканные женщины, видимо, мать и сестра одного из задержанных парней.

— Что ты натворил?!

— Я ничего не натворил, — говорит он, — а вот этот (показывает на стража в дверях) дал мне в рожу, и я ему этого не прощу.

— Замолчи, — кричали бедные женщины, — товарищ милиционер, отпустите его!

Дошла моя очередь. Фамилия! Имя! Отчество! Год рождения! Звонок Золушке. Я жду, раздумываю, по какому же критерию Золушка отбирает людей. Я ведь, так сказать, не привлекался, не замечен, не состоял. Через несколько минут человек в форме кладет трубку и ... молча начинает составлять протокол. Место рождения, место работы, зарплата. Через несколько минут подзывает меня к столу и говорит:

— Вот тут и тут.

— Что, тут и тут?

— Подпиши, тут и тут.

— Я сначала прочитаю, а потом уже подпишу или не подпишу.

В разделе «Нарушение» что-то накорябано совершенно неразборчивым почерком.

— Вы мне прочитайте, что тут написано.

Он читает: «При задержании шатался из стороны в сторону, речь была невнятной».

— Подписывать это не буду, потому что я не шатался из стороны в сторону, во-первых, потому что не был пьян, во-вторых, и потому что сидел на скамейке. Речь у меня не могла быть невнятной, потому что при задержании я вообще ни с кем не разговаривал.

В ответ «блюститель закона» тыкает пальцем:

— Хорошо, подпиши вот здесь, что ознакомлен с протоколом.

Смотрю туда, куда он показывает пальцем. Там черным по белому написано: «Подпись нарушителя».

— За кого вы меня принимаете? — говорю я.

— Ладно, пиши объяснение.

Я написал, что с протоколом не согласен, после чего был отправлен «к начальнику». Это была именно та комната, где «откатывают пальчики» и «снимают кино».

Меня попросили подождать в коридоре. Постоял минут 10, после чего ко мне подошел капитан и спросил: «На тебя протокол составляли?» – «Да» – «Свободен» – «Но я же не подписал протокол» – «Все равно свободен»

Вот так неожиданно я оказался на свободе. И, видимо, благодаря тому, что не подписал протокол. Власти боятся связываться с теми, кто оказывает им хоть малейшее сопротивление.

На основании данного факта я направил заявление в Хельсинкский комитет, правозащитный центр «Весна-96», другие международные правозащитные организации, «Хартию-97», ОБСЕ и ООН. Зачем? Я не хочу, чтобы мои дети боялись выходить на улицу, ведь подобные облавы стали обычным явлением. Например, на следующий день около 7 вечера в такой же автобус запихивали людей в районе парка им. Горького.

Предлагаю всем пострадавшим во время подобных рейдов обращаться в редакцию и правозащитные организации Беларуси:

***Правозащитный Центр «Весна-96».***
***Тел/факс: 236-61-94***
***Беларуский Хельсинкский комитет.***
***Тел/факс: 256-23-55***

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Гэты матэрыял пра беззаконныя дзеянні міліцыянтаў прымушае ўспомніць даўнейшыя так званыя «Брыгады садзеяння міліцыі» (БСМ), якія фармаваліся з агрэсіўных добраахвотнікаў. Галоўным заняткам БСМ у 50-х гадах была барацьба з тагачаснай нестандартна апранутай моладдзю. Стандартам лічыліся «клёшы», і БСМаўцы, сустракаючы юнакоў у новамодных завужаных штанах, успорвалі іх па швах, а модныя «кокі» здымалі машынкай пад любы ім «бокс» ці пад «Катоўскага». Ёсць шмат людзей, якія памятаюць перажытыя тады ад канфармістаў здзекі і свае пачуцці абражанасці.

І сённяшняе паляванне міліцыі на «валасацікаў», кпіны, абразы, надуманыя пратаколы сведчаць пра вяртанне старых міліцэйскіх звычак выроўніваць па ранжыру. Варта заўважыць, што гэта не надта стасуецца з заявамі міністра УС РБ узняць аўтарытэт сваіх супрацоўнікаў у народзе. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 594 Нумар падпісаны ў друк 06/09/99 (15:00) Наклад – 16.780